# ШКОДНІКІ КАПУСТЫ.

Кожны амаль што ведае, што на капусьце ўлетку зьяўляецца вельмі многа чарвей. Ёсьць паміж чарвей і шэрыя, і рабенькія, і зялёныя. А што гэта за чэрві і адкуль яны ўзяліся, то напэўна ня ўсякі ведае.

Вось аб гэтым я і хачу падзяліцца ведамі з тымі, хто не знаём добра з чарвямі. Усё, аб чым я буду гаварыць, узята з маіх досьледаў і назіраньняў над капуснымі шкоднікамі.

Найбольш пашыраным шкоднікам капусты зьяўляецца капусная бялянка. Гэта досыць вялікі матыль. Размах крыльляў дасягае 55—60 мм. Тулава бялянкі складаецца, як і ў іншых матылёў, з трох частак: галавы, грудзей і брушка. Сьпераду гала-

**Б я л я н к а.**



**a**—самец, **b**—самка, **c**—вусень, **d**—кукалка, **g**—яечкі.

вы знаходзяцца булававыглядныя вусікі; яны для матыля зьяўляюцца ворганам вошчупу. Каля гэтых вусікаў знаходзяцца два адросткі, нібы недаразьвітыя сківіцы. Па баках галавы знаходзіцца пара фасэчатых вачэй. Фасэчатымі яны завуцца таму, што складаюцца з маленькіх шасьцікутнікаў. Кожным гэтым шасьцікутнікам матыль бачыць таксама як мы вокам.

На ніжняй частцы галавы знаходзіцца хабаток, падобны да скрутка і доўгі. Доўгі ён таму, каб матылю можна было даставаць сок (нектар) з кветак. Калі матыль ня есьць, хабаток у яго скручаны.

Да сьпіны ў матыля прымацаны 2 пары буйных крыльляў. Дзякуючы гэтым крыльлям матыль лёгка лятае ў паветры. Калі правесьці па крылу пальцам, то на пальцы асядзе шмат белай пыльцы. Калі гэтую пыльцу разгледзець пад мікраскопам, то заўважым, што яна складаецца з маленькай лускі. Луска гэта мае выгляд роўных радкоў, усё роўна як на страсе гонты.

На грудзях знаходзіцца тры пары параўнаўча кароткіх ножак, з кепцікамі на канцы. Гэтымі кепцікамі матыль трымаецца за кветку, калі п'е сок.

Трэцяй часткай цела матыля зьяўляецца брушка. Яно складаецца з сэгмэнтаў (колцаў). Паміж сэгментаў знаходзяцца насечкі, у якіх ёсьць маленькія дзірачкі. Гэтымі дзірачкамі матыль дыхае. Упэўніцца ў гэтым можна тады, калі замазаць іх саламяці воскам, пасьля чаго матыль здыхае. Вось ад гэтых насечак і пайшла назва „насякомае“.

Паміж матылёў ёсьць самцы і самкі. Галоўная розьніца паміж самцом і самкай наступная: самка мае кропелькі з надворнага і ўнутранога боку крыльляў і мазок, а самец мае кроплі толькі з надвор-

(*Канец гл. на 3 ст. вокладкі*).

## ЗЬМЕСТ.



Рэдколегія: БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

*Год выданьня 4-ты.*

**Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, Орган ЦКЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 20 КАСТРЫЧНІК 1928 г.**

## УСЕ НА КОМСАМОЛЬСКІ СУБОТНІК!

**У працягу лістапада месяца комсамол заклікае ўсіх піонэраў і вучняў да організаванага ўдзелу ў комсамольскім суботніку на дапамогу школе. На сабраныя грошы ад суботнікаў будуць: будавацца школы, абсталёўвацца майстэрні для практычнай работы вучняў, організоўвацца вопытныя вучасткі пры вясковых школах, аказвацца дапамога дзецям беднаты і батрацтва.**

**Піонэры і вучні! Атрады і школы! Вам таксама трэба абавязкова прыняць удзел у комсамольскім суботніку.**

**Вам у першую чаргу трэба падумаць, што трэба зрабіць у вашай школе ў час суботніка. Кожнаму вучню трэба самому папрацаваць на карысьць сваеі школы. Абсталяваць майстэрню, адрамантаваць якую-небудзь прыладу, варштат—могуць узяць на сябе вучні.**

**Організуйце ў рабочых клюбах, хатах-чытальнях вечары тэхнікі, хэміі, радыё. Раскажэце сваім бацьком, якое значэньне маюць для вас майстэрні, дзе вы набываеце працоўныя навыкі.**

**Гарадзкія піонэры! Бярэце шэфства над вясковымі атрадамі, школамі. Дапамагайце ім організоўваць тэхнічныя гурткі, зьбірайце на іх карысьць літаратуру па пытаньнях тэхнікі, навукі.**

**У сваіх клюбах, школах наладжвайце вітрыны—навінак тэхнічнай літаратуры. Вывешвайце лёзунгі, плякаты, агітуючыя за працоўнае выхаваньне.**

**УСЕ НА БАРАЦЬБУ ЗА САВЕЦКУЮ ПРАЦОЎНУЮ ШКОЛУ!**

**УСЕ НА КОМСАМОЛЬСКІ СУБОТНІК!**

*У сваёй майстэрні.*

# Гісторыя з сіняй настольніцай

М. Горкі

Малюнкі Ваго

Па вечарох, ад чаю да вячэры, дзядзькі і рабочыя сшывалі кавалкі афарбаванага палатна ў адну „штуку“, прышпільваючы да яе картонныя ярлычкі. У гэты час дня дзядзькі Міхась і Якуб, „дурное племя“, як іх абзывала бабка, заўсёды наладжвалі спакойнаму і бяскрыўднаму майстру Рыгору што-небудзь крыўднае і злое: возьмуць ды нагрэюць на агні ручкі ножнаў, альбо ўтыркнуць у сядзеньне яго крэсла цьвічок вострым канцом дагары, ці пакладуць яму, напаўсьляпому, рознакаляровыя кавалкі палатна,—ён сшые іх у адну „штуку“, а дзед лае яго за гэта.

Аднойчы, калі Рыгор спаў пасьля абеду, яму нафарбавалі твар чырвонай фарбай, і ён доўга хадзіў такім сьмешным, страшным: з шэрай барады цьмяна глядзяць дзьве круглыя плямы акуляраў і журботна зьвісае доўгі чырвоны нос, падобны на язык.

Майстра пераносіў усё моўчкі, толькі паціху мармытаў, ды, калі яму балела, на яго вялізным твары зьяўлялася хваля маршчынак і, дзіўна перарэзаўшы лоб, узьняўшы бровы, зьнікала недзе на голым чэрапе. Бабка сердавала на дзядзькоў, пагражала ім кулаком і лаялася:

— Агідныя хары, злыдні!

Дзядзькі не супакойваліся; аднойчы дзядзька Міхась загадаў свайму пляменьніку, Алесю Якубаваму, нагрэць дачырвана на агні напарстак майстра Рыгора. Алесь заціснуў напарстак абцужкамі для здыманьня нагару са сьвечак, страшэнна нагрэў яго і няпрыкметна падклаўшы пад руку Рыгора, схаваўся за печ, але якраз у гэты момант прышоў дзед, узяўся за працу, і сам сунуў палец у нагрэты амаль дачырвана напарстак.

Потым, схапіўшыся за вуха апечанымі пальцамі, сьмешна скакаў і крычаў:

— Чыя справа, басурманы?

Дзядзька Міхась, схіліўшыся над сталом, ганяў напарстак пальцам і дзьмуў на яго; майстра, не зьвяртаючы ўвагі, шыў; цені скакалі на яго вялізнай лысіне; прыбег дзядзька Якуб, і, схаваўшыся за печ, ціхенька там сьмяяўся.

— Гэта Алесь Якубаў зрабіў,—раптам сказаў дзядзька Міхась.

— Маніш, — закрычаў Якуб, выскачыўшы з-за печкі.

А недзе ў кутку Якубаў Алесь плакаў і крычаў:

— Тата, няпраўда. Ён сам мяне навучыў!

Справа пагражала суровым пакараньнем. Усе казалі—вінаваты дзядзька Міхась. Алёша ўжо ведаў, што дзед кожную суботу ў кухні лупцуе дзяцей, якія правініліся ў чым-небудзь на працягу тыдня. Калі пілі чай, ён запытаўся—ці будуць лупцаваць дзядзьку Міхася? Усе зарагаталі, а дзядзька Міхась стукнуў кулаком па стале і абяцаў правучыць пляменьніка за гэткую крыўду. І падбухторыў ён зноў Якубавага Алеся. А Алесю і самому вельмі хацелася з бяды вылезьці ды на другога зваліць. І здарыўся выпадак. Алёшу вельмі цікавіла, як спрытна дарослыя мяняюць колер палатна: бяруць жоўтае, мочаць яго ў чорнай вадзе, і палатно робіцца цьмяна-сінім— „кубавым“, напалошчаць шэрае ў рыжай вадзе, і яно робіцца чырванаватым—„бурдовым“. Проста, а —незразумела. Захацелася Алёшу самому афарбаваць што-небудзь, а Якубаў Алесь тут-як-тут. Ласкава параіў ён яму ўзяць з шафы белую сьвяточную настольніцу і афарбаваць яе на сіні колер.

— Белае лягчэй за ўсё фарбуецца, я добра ведаю!—сказаў ён вельмі сур'ёзна.

Алёша выцягнуў цяжкую настольніцу, выбег з ёю на двор, але, калі апусьціў рог яе ў чан з „кубавай“, на яго наскочыў аднекуль Цыганок, вырваў настольніцу і, адціскаючы яго шырокімі лапамі, крыкнуў Алесю, які сачыў з сенцаў за работай Алёшы.

— Пакліч бацьку хутчэй.

І, ківаючы чорнай лахматай галавою, нібы паказваючы, што бяда будзе, сказаў Алёшу:

— Ну, і нагарыць-жа табе за гэта!

Прыляцела бабка, завойкала, нават заплакала, сьмешна так лаючы Алёшу:

— Эх, ты, пярмчук, салёныя вушы! Каб цябе ўзьняло ды грыманула!

Потым пачала ўгаварваць Цыганка:

— Ты ўжо, Яначка, не кажы дзеду. Я схаваю канцы ў ваду; можа й пройдзе як-небудзь...

Янка заклапочана казаў, выціраючы мокрыя рукі рознакаляровым фартухом:

— А мне якая справа? Я не скажу, і толькі глядзі каб Алеська не сказаў?

— Я яму пятак дам,—сказала бабка, вядучы Алёшу дахаты.

---

Як лупцуюць дзяцей, Алёша ніколі ня бачыў, і дзед, са злосьцю міргаючы вокам і трасучы рыжай бародкаю, ужо не адзін раз абяцаў яму паказаць гэта.

У суботу прывялі яго ў кухню. Было цёмна і ціха. На шырокім тапчане сядзеў сярдзіты, не падобны да сябе Цыганок; дзед, стоячы ў кутку, ля цэбра, выбіраў з вядра з вадою доўгія дубцы, мераў іх, складаў адзін з другім і са сьвістам размахваў імі ў паветра. Бабка, стоячы недзе ў цемры, моцна сапла, нюхаючы тутун і мармытала:

— Р-а-д... тыран...

Якубаў Алесь сядзеў на крэсьле пасярод кухні, цёр кулакамі вочы і чужым голасам, нібы жабрак, выводзіў:

— Даруйце! Даруйце!..

Нібы дзеравяныя, стаялі за крэслам дзеці дзядзькі Міхася, брат і сястра, побач. Іх таксама прывялі паказаць лупцоўку.

— Вылупцую— дарую, — сказаў дзед, прапускаючы доўгі мяккі дубец праз кулак.—Ну, а цяпер здымай штонікі!..

Алесь устаў, расшпіліў штаны, спусьціў іх аж да кален і, падтрымліваючы рукамі, згорбіўшы сьпіну, спатыкаючыся, пайшоў да тапчана. Глядзець, як ён ідзе, было вельмі нядобра, у Алёшы таксама дрыжалі ногі.

Але стала яшчэ горш, калі ён пакорліва лёг на тапчан уніз тварам, а Янка, прывязаўшы яго да тапчана падпахі і за шыю шырокім ручнікам, нахіліўся над ім і схапіў чорнымі рукамі яго ногі каля шчыкалатак.

— Алёша—паклікаў дзед,—хадзі бліжэй! Ну, каму кажу? Вось глядзі як лупцуюць... Раз!..

Нявысока махнуўшы рукою, ён лязнуў дубцом па голаму целу. Алеська заенчыў.

— Маніш,—сказаў дзед,—гэта ня моцна! А вось так мацней!

І лязнуў так, што на целе адразу загарэлася, успухла чырвоная палоска, а Алесь працяжна заплакаў.



— Ня соладка?—пытаў дзед, паступова ўзьнімаючы і апускаючы руку.— Ня любіш? Гэта за напарстак!

Калі ён узьнімаў руку, у грудзёх у Алёшы ўсё ўзьнімалася разам з ёю; падала рука—і ён увесь быццам падаў.

Алесь плакаў надзвычайна ценкім голасам, прыкра:

— Ня буду-у... Ды я-ж сказаў пра настольніцу... Я-ж сказаў...

Спакойна, быццам чытаючы пацеры, дзед казаў:

— Данос—не апраўданьне!—Даносчыку першы бізун. Вось табе за настольніцу!

Як толькі бабка пачула слова „настольніца" яна кінулася да Алёшы і схапіла яго на рукі, крычачы:

— Алёшы ня дам! Ня дам, кат!

Яна пачала біць нагою ў дзьверы, заклікаючы Алёшаву маці:

— Барбара! Барбара!

Дзед кінуўся да яе зьбіў яе з ног, выхапіў Алёшу і панёс да тапчана. Алёша трапятаўся ў руках у дзеда, тузаў за рыжую бараду, укусіў яму палец. Дзед лаяўся, ціскаў яго і, нарэшце, кінуў на тапчан, разьбіўшы яму твар.

— Прывязвай,—крычаў ён,—заб'ю!

---

Дзед зьбіў Алёшу да няпрытомнасьці і ён некалькі дзён праляжаў, плячыма дагары, на шырокай гарачай пасьцелі.

Нечакана, нібы са столі зваліўся, зьявіўся дзед і сеў на ложак.

— Добры дзень, ягомасьць... Ды ты адкажы, не сярдуй!..

Ляксейка хацеў выцяць дзеда нагою, але ён ня мог павярнуцца—так балела. Дзед здаваўся яму яшчэ больш рыжым, чым раней: галава яго непакойліва хісталася; яркія вочы шукалі чагосьці на сьцяне. Выняўшы з кішэні пернік, дзьве цукровых бутэлечкі, яблык і галінку сініх разынак, ён паклаў усё гэта на падушку, ля Алёшавага носу.

— Вось, бачыш, я табе гасьцінца прынёс!

Пасьля пачаў гутарыць, гладзячы Алёшаву галаву маленькай шаршавай рукою, афарбаванай у жоўты колер, які асабліва прыкметны на крывах, птушыных пазногцях:

— Я цябе тады занадта, браток... Вельмі ўсхваляўся; укусіў ты мяне, царапаўся, ну, і я таксама ўзлаваўся! Аднак, не бяда, што ты занадта перацярпеў,— будзе залічана! Эх! Ты думаеш—мяне ня білі! Мяне, Алёшачка, так білі, што ты гэтага і ў страшным сьне ня ўбачыш.

І, нахіліўшыся сухім згорбленым целам, ён пачаў апавядаць пра свае дзіцячыя дні, ды пра тое, як ад беднасьці бурлаком працаваў.

Яго зялёныя вочы яскрава запалымнелі, і, весела ашчаціўшыся залатым воласам, згусьціўшы высокі свой голас, ён трубіў Алёшу ў твар.

— Ты вось на параходзе прыехаў, пара цябе везла, а я ў маладосьці сам, сваёй сілай супроць Волгі баржы цягнуў. Баржа—па вадзе, а я—па беразе, босы, па гострых каменьнях, па абрывах, ды так ад усходу сонца да ночы! Напячэ сонейка патыліцу, галава, нібы чыгун, кіпіць, а ты, згорбіўшыся ў тры пагібелі,—косткі рыпяць, ідзеш ды ідзеш, і дарогі ня відно, вочы потам заліло, а душа плача, а сьлёзы коцяцца,—эх-хэ, Алёша, ты маўчы! Ідзеш, ідзеш, ды з лямкі і выпадзеш проста тварам у зямлю і гэтаму рады; значыцца, уся сіла дачыста вышла, хочаш адпачывай, хочаш здыхай! Вось як жылі!.. Ды так-вось я тройчы Волгу-маці зьмераў: ад Сімбірску да Рыбінску, ад Саратава дагэтуль, ды ад Астрахані да Макарава, да кірмашу,—тут, браточак, не адна тысяча вёрст!

Гаварыў ён—і нібы рос у вачох Алёшы, рос шпарка, быццам воблака, становячыся з маленькага, сухенькага дзядулі чалавекам з казачнай сілаю,—ён адзін цягне супроць плыні рачной вялічэзную, шэрую баржу...

Часамі ён саскокваў з пасьцелі і, махаючы рукамі, паказваў, як ходзяць бурлакі ў лямках, як адкачваюць ваду; сьпяваў басам нейкія песьні, потым нанава па-маладому скакаў на пасьцель і, увесь дзіўны, яшчэ больш згушчаў свой голас:

— Але, затое, Алёша, на прывале, на адпачынку ў летні вечарок у жыгулёх, дзе-небудзь пад зялёнаю горкай, раскладзём, бывала, вогнішчы—кашу гатуем, ды як завядзе гаравы бурлак сардэчную песьню, ды як возьмецца, як грымане ўся арцель,—аж мароз па скуры прабя-

жыць, і нібы Волга ўся шпарчэй пацячэ,— нібы конь на дыбы ўстане, да самага воблака! Ї ўсялякае гора—нібы пыл па ветры; да таго запяваліся людзі, што, бывала, і каша з катла бяжыць; тут кашавара апалонікам па ілбу трэба біць, гуляй, як хочаш, ды справу памятай!

Некалькі разоў у дзьверы заглядвалі, клікалі яго, але Алёша прасіў:

— Ня выходзь!

Ён, сьмяючыся, адмахваўся ад людзей:

— Пачакайце там...

Апавядаў ён аж да самага вечара, і калі пайшоў, дык Алёша ведаў, што дзед ня злы і не страшны. Але-ж да сьлёз цяжка было ўспамінаць, што гэта ён гэтак бязьлітасна зьбіў яго.

Баўчком укаціўся Цыганок, з шырокімі грудзьмі, з вялікай кучаравай галавой. Яго валасы блішчалі, касаватыя вясёлыя вочы палымнелі пад густымі брывамі, іскрыліся белыя зубы пад чорнаю палоскай маладзенькіх вусікаў.

— Ты паглядзі!—сказаў ён, узьняўшы рукаў, паказваючы Алёшу голую руку да локця ў чырвоных рубцох,—вось як разьнесла! Ды яшчэ горш было, але загаілася шмат!—ці чуеш: як увайшоў дзед у злосьць, бачу я, заб'е ён цябе, дык пачаў я руку гэтую падстаўляць, чакаў—зломіцца дубец, дзед пойдзе па другі, а цябе і ўкрадуць, маці ці бабка! Аднак, дубец не зламаўся, гнуткі, мочаны! А ўсё-ж такі табе менш папала,—бачыш наколькі? Я, брат, лайдакаваты!..

Ён зарагатаў шаўковым, ласкавым рогатам, нанава разглядваючы спухлую руку і, сьмяючыся, казаў:

— Гэтак шкада цябе стала, аж у горле высахла, чую! Бяда! А ён лупцуе...

Фыркаючы, як конь, ківаючы галавою, ён пачаў гаварыць нешта пра справы:

— Я цябе вельмі люблю,—сказаў Алёша.

— Дык і я-ж цябе таксама люблю,— адказаў ён проста,—таму і руку падстаўляў: за любоў! Ці стаў-бы я за іншага каго заступацца?! На ліха мне...

Потым ён пачаў ціха, ціха вучыць Алёшу, часта азіраючыся на дзьверы:

— Калі цябе другі раз лупцаваць будуць, дык ты, памятай, ня сьціскайся, ня сьціскай цела,—чуеш? У два разы больш баліць, калі цела сьцісьнеш, а ты папусьці яго вольна, каб яно мяккае было,—кісялём ляжы! Ї не надзімайся, дышы, што ёсьць сілы, крычы няма,— гэта ты памятай, гэта добра!

Алёша спытаў:

— А ці-ж яшчэ біць будуць?




— А як-жа?—сур'ёзна сказаў Цыганок. —Зразумела будуць! Цябе, як відаць, часта будуць біць...

— За што?

— Гарачы занадта, наўпоперак слова стараешся гаварыць.

Ї нанава з клапатлівасьцю вучыў:

— Калі ён лупцуе зьверху, проста кладзе дубец,—ну, тут ляжы спакойна, мякка; а калі ён з адцяжкаю лупцуе,— вытне, ды да сябе дубец пацягне, каб скуру зьдзерці,—дык і ты віляй целам да яго, за дубцом, разумееш? Так лягчэй!

Падмаргнуўшы цёмным, косым вокам, ён сказаў:

— Я ў гэтай справе разумнейшы са самога квартальнага! У мяне, братка, з скуры хоць рукавіцы шый!

— Маленькіх заўсёды б'юць?

— Заўсёды,—спакойна адказаў Цыганок, потым ласкава абхапіў Алёшу і прыўзьняў на руках.

— Які ты лёгкі, тонкі, а косьці моцныя, асілкам будзеш. Ведаеш ты што: вучыся на гітары іграць, прасі дзядзьку Якуба, дальбо! Пайшлі-б мы з табою... Эх, малы ты яшчэ, вось дзе замінка! Малы ты, а злосны. І нечакана, моцна прыціснуўшы Алёшу да сябе, амаль што застагнаў:

— Эх, каб голас мне пявучы, эх-ты, божухна! Вось апёк-бы я народ...

Аднойчы прышоў і майстра Рыгор. Алёша спытаў, завошта дзядзькі яго крыўдзяць.

— Завошта? А яны, як відаць, і самі ня ведаюць. Дзядзька Якуб дык жонку забіў на сьмерць, замучыў, а дзядзька Міхась і зараз сваю жонку б'е, дзядуля не дае біць яму, дык ён уначы б'е. Можа і за тое б'е, што лепшая яна за яго, а ён зайздросьціць. Кашырыны, брат, добрага ня любяць, яны зайздросьцяць яму, а прыняць ня могуць, зьнішчаюць! Ты вось спытай у бабкі, як яны бацьку твайго зжывалі. Яна ўсё скажа: яна маны ня любіць. Яна нібы сьвятая. Ты моцна трымайся за яе. А людзей ня бойся!—сказаў ён падумаўшы.— Глядзі ўсім проста ў вочы; сабака на цябе кінецца, і яму таксама—адчэпіцца. Зразумеў? Табе ўсё трэба разумець, глядзі, а не, дык загінеш!

Алёша глядзеў на майстра, і здавалася яму, што той з-пад акуляраў усё бачыць наскрозь.

---

# ЧАРГА.

**(Да ведама курцоў Вузьдзенскай сямігодкі).**

*Пастанова ёсьць у школе:*
*Ня курыць нідзе ані!*
*Другім гэта сэрца коле,—*
*Горш чым босым на агні.*

*Але ў школе, дзе быў Пётра,*
*Ёсьць хляўчук—дзе ўсякі хлам,*
*І курцы з усьмешкай ветлай*
*Заўжды зьлёты робяць там.*

*Як званок адно празвоніць,*
*(Перапын хвілінаў пяць),*
*Быццам віхар хлопцаў гоніць,—*
*Каб хутчэй туды дапяць!*

*Прыбяжыць сюды хто ўперад—*
*Дык „махру“ хутчэй даёш!*
*Іх нашыецца, бы ў нерат—*
*20 штук, а то і больш.*

*Па чарзе у хлеў падходзяць—*
*І махра гарыць, гарыць,*
*Аж пакуль званок пашкодзіць*
*Ім агаркі дакурыць.*

*Не мяшала-б каб аблаву*
*Тут зрабіў калі вучком,*
*І хлапцом за іхню справу*
*Па заслузе даць дыплём.*



# СУД НАД КАПЕЙКІНЫМ.

Шчыра прызнаюся: ня люблю я бруду. Так ня люблю, як шмат якія іншыя „сьвіняпадобныя“ піонэры яго любяць. І што, скажэце, за смак плаваць у гразі, зьбіваць сабе насы на align рознае ламачча, што тут-жа валяецца ў цябе пад нагамі, дзе-б ты не павярнуўся!

Вось, прынамсі, уявеце сабе, у нас— хата. А ў хаце яшчэ дзесяць хат: і падпечак, і катушкі для жывёл, і варыўня, і яшчэ і яшчэ такой злыбяды напорацца, што аж моташна становіцца ад усяго. А што робіцца ва ўсіх гэтых хатах! Страхоцьце! Тут табе і хатнія, свойскія чэрві разьвяліся, і ўгнаеньняў з воз валяецца, і пархумэры, як у добрай лазьні.

— Брацішкі, ды як-жа тут жыць?— Крычу я на свайго бацьку.—Няўжо ня зьлітуецца над намі, небаракамі, твая ўсеаўладная воля і не абудзіць тваe чалавечай сьвядомасьці?—так крычу я на бацьку. А ён? Сьмех адзін, што робіць ён... „Маўчаць!“ І гэта ўсё. Іншы раз дабавіць толькі злосна: „Распанеў, абармоціна, туды тваю лытку—гразь, бруд яму ўжо кепска! Сам будзеш гаспадаром, дык будзеш і выстранчаць сабе, а я ўсім выдыгаць ня зьбіраюся! Чорт яго набярэцца чыстаты!“

Маўчу толькі я пасьля ўсяго гэтага, сьцяўшы зубы. Рабіць што самому— баюся: усё роўна аддубасіць; ня першы ўжо раз!

Радачкі няма іншай. Але ўсю сваю гэтую брудную злосьць перанёс я цяпер у другія краі. Тут ужо, браця,—стоп: не бацька-ж мне які-небудзь павадыр ці піонэр, і ня сын я іх.

І вось праз гэтае самае ўсё і здарылася. Я, чаго вока крыць,—хлопец гарэзьлівы, да таго-ж забіяцкі, сьмелы. Ужо калі чую ў пятах моц, дык цьвёрда стаю на сваім грунце: папрабуй хто сьпіхнуць мяне з гэтага месца—вочы вылупіш, язык высалапіш, а з месца не скранеш. Капейкін вам не абы што: ня лыкам падплецены і малака на губах ужо ня носіць.

Як і ўсякі актыўны піонэр, я часьцяком труся ў сваім клюбе. Даруйце за назву — клюбам гэта бруднае месца можна назваць толькі цяпер, пасьля той гісторыі, што на днях адбылася. Але ўмовімся, шаноўныя чытачы, што гэта быў клюб. Няхай будзе ўсё, як у людзей.

Калі я бывала заходзіў сюды ў клюб— я кожны раз ад сораму перад сьценамі з портрэтамі моршчыўся, чырванеў і нават упадаў у „лірычны сум“.

Уявеце сабе гэты клюб у адным з нашых далёкіх мястэчак.

Рынак. На рынку коопэратыў. У коопэратыве, у адной палове дому, наш клюб. У клюбе 4 брудныя сьцены. Са сьцен, праз пасмы павучыньня, плачучы ад цьвілі, выглядаюць абліччы нашых правадыроў. Пасярод іх—вялізарны портрэт павадыра нашага атраду Цяпкіна. Ён, бачыце, лічыць сябе ў піонэрскім асяродзьдзі найважнейшым правадыром. На падлозе— чаго толькі тут няма. Агрызкі яблык, аскабалкі леташніх дроў, паломаныя і пакалечаныя крэслы. Мышыныя аб'едкі газэт і рознай службовай перапіскі, 17 дзірак у падлозе, якія мышыным ходам злучаюцца з ссыпным складам коопэратыву. Каб сказаў тут хоць адзін



*Пасярод портрэтаў правадыроў вісіць вялізны портрэт Цяпкіна.*

людзкі ўслончык ці крэсла! Але ці варта больш дапаўняць і так досыць мастацкі малюнак дробязямі.

Вось тут і жыві ў такім клюбе, выхоўвай новага чалавека і ўсё такое...

Страх, як ня люблю я ўсяго гэтага. Лепш-бы згадзіўся па фунту цыбулі есьці кожны тыдзень, у той дзень, калі бывае збор атраду, але каб ня йсьці ў гэты клюб.

Чытач, напэўна, ужо скрывіўся на мяне: чаму гэта, ліха тваёй матары, ты, Капейкін, як сьвядомы авангард піонэрскага руху, не навядзеш там парадку?

Так, так, шаноўны чытач! Ты зусім папаў як пальцам у вока. Але-ж ня так яно ёсьць, як ты думаеш. Не такі ўжо я хлопец, каб папускацца ўсялякім там брудным жабуцькам.

Я адразу-ж пачынаю весьці рашучую барацьбу. Больш трываць не магу.

Я заходжу аднойчы ў клюб. Там некаторыя піонэры і павадыр чытаюць газэты, пакурваюць і паплёўваюць (гэта, чытач, я далікатна выказаўся—„паплёўваюць“—дзе яно відана—харкаюць цэлымі вязкамі, смэркаюць на падлогу, вось што).

— Што гэта—крычу я на ўсё горла—за парадкі, трасца вам у бок. Дзе ваша культурнасьць?—пытаю я ў іх.




*Мы ўласнаручна яго вышаравалі, вымылі, абчысьцілі...*

І што-ж вы думалі? Паслухалі? Перасталі пляваць і курыць?—Дзе там! Яшчэ які кур'ёз здарыўся праз гэту задзірлівасьць.

Як на злосьць, адзін рызыканцік устае з-за стала, кладзе па-жуліцку рукі ў кішэні і выходзіць на сярэдзіну клюбу.



*Адзін рызыканцік устае і выходзіць на сярэдзіну...*

Яшчэ горшая злосьць апанавала мяне:

— Што гэта за рызыканства!—падыходжу я да яго, рву з зубоў сьмярдзючую папяросу-піпку і выпіхаю яго ў дзьверы.

Толькі гэта я ўсё зрабіў, ён мяне—трах! па фізыономіі. Стаю я, як мыла зьеўшы, думаю. Потым—назад! Ды так зьвёз, што той і рэчы не ўказаў—пакаціўся і толькі нагамі трапеча.

Падбеглі другія. Прабуюць падняць Вішню (так зваўся той піонэр). А ён вочы вылупіў і прытварыўся зусім памёршым.

Ото-ж бяды было. А далей, вядомая рэч—таварыскі суд.

Ну, што-б вы сказалі?—мне судзіцца і завошта? А вось-жа давялося. Самы сапраўдны наладзілі суд у клюбе. Мяне вінавацілі, што я наогул гарэза і вечна буяню ў атрадзе. (Падумайце—буяню! я толькі змагаюся вечна за чыстату, за праўду, за інтарэсы, можна сказаць, піонэрскага пролетарыяту, а яны вунь што плявузгаюць!).

Але гэта вінавацілі мяне да-пары-да-часу—пакуль я ня ўзяў слова.

Сваю прамову я вучыў цэлы тыдзень. Я гаварыў поўную гадзіну. Я даў суду самы падрабязны аналіз характару бруднасьці нашага клюбу, някультурнасьці некаторых піонэраў і павадыра. Ад мае прамовы вушы вялі ў сяброў суда.

Цяжкое, відаць, уражаньне зрабіла мая прамова нават і на саміх шкоднікаў, з якімі я вечна сварыўся і змагаўся за культурнасьць. Мяне апраўдалі! Але гэтага мала. Капейкін ня толькі не прапаў сам з капытамі, а нават павярнуў справу зусім у іншы бок. От што яно бывае, калі чалавек са сьмеласьцю і ўпэўненасьцю бярэцца за справу.

Адразу наш атрад вылучыў камісію; на чале камісіі стаў я.

Праз дзень наш клюб выглядаў сьвежым, здаровым, бадзёрым юнаком. Мы ўласнаручна яго вышаравалі, абчысьцілі, абклеілі новымі абоямі.

На другі дзень мы наладзілі пры атрадзе свой сталярны гурток—прылады пакуль што пазычылі. Закіпела праца. Я падабраў у сваёй бібліотэцы ўсе тыя №№ „Бел. Піонэра“ і іншых газэт, дзе раіцца, як самім піонэрам можна абсталяваць свой клюб...

Цяпер у нас ня клюб, а, можна сказаць, клюбная заля. Не хапае толькі трумо, якога самі ніяк ня зробім і ні ў якой часопісі ня вычытаў я пра гэта. Бедная ўсё-ж наша саматужная піонэрская тэхніка!

Дык вось, шаноўны чытач, якое здарэньне са мной трапілася. Чуць не асудзілі. Але я думаю, што і вы, чытачы, не асудзіце мяне за мой характар, а і самі згодзіцеся, што цяперашні наш клюб шмат лепшы за ранейшы. А як у вас?

**Капейкін.**

Абавязак кожнага чытача пашыраць **сваю часопісь**—гэта баявы лёзунг **культурнага паходу.**






На паўночны захад ад Касьпійскага мора раскінуліся Калмыцкія стэпы. Аднастайныя, пакрытыя рэдкай, калючай травой, а часам толькі пяскамі, цягнуцца яны на сотні кілёмэтраў і робяць сумнае ўражаньне на прыежджага чалавека. Узімку гуляюць паволі бураны (завірухі), з рэдкім, сухім і калючым, як пясок, сьнегам. Улетку сьпякота ў 40°, якая сушыць усю зяляніну, бо дождж там—рэдкае зьявішча. Часта і ўлетку бываюць завірухі, але ўжо пяшчаныя. Толькі ўвесну ўпрыгожваюцца стэпы зялёнай травой і яскравым дыванам кветак. Праз некалькі тыдняў яны ўжо гінуць ад сьпякоты, і толькі ўвосень яшчэ ажываюць на некаторы час.

Галоўная бяда Калмыцкіх стэпаў—нястача вады. Значных рэк зусім няма; ёсьць шэраг вазёраў, але большай часткай вада ў іх салёная. Таму найвялікшае значэньне маюць там „худукі", г. зн. студні. Тамака і паселішчы ўсе завуцца худукамі: худук такі-та, худук гэтакі. Але такія худукі сустракаюцца досыць рэдка: кілёмэтраў 15—50 адзін ад аднаго, ды і ня глыбокія яны, бяз зрубу і часта з салёнай вадой. Каб дастаць добрую ваду, трэба капаць значна глыбей, а ў калмыцкіх умовах гэта справа ня лёгкая.

На ўсім прасторы калмыцкіх стэпаў вы ня сустрэнеце аніводнага гораду. Ня ўбачыце і вёсак такіх, як у нас. Калі дзе-ні-дзе і знойдзецца такі пасёлак, дык там жывуць тыя сяляне, што перасяліліся з Расіі, Украіны, а можа—і Беларусі.

Карэнныя-ж жыхары гэтай краіны, калмыкі, жывуць у лямцавых кібітках (юртах), сям-там параскіданых у стэпу. Каля кібітак пасуцца вярблюды, авечкі, коні, радзей—каровы. Пасуцца яны круглы год, нават узімку: сьнегу тамака мала, і жывёлы самі дастаюць з-пад яго асеньнюю траву (вясеньняя павысыхала за лета). Калмыкі ня косяць травы, не запасаюцца сенам. Калі не хапае жывёлам корму на адным месцы, калмыкі складваюць свае кібіткі і перабіраюцца на новае месца.

Адзіны сродак для жыцьця ў калмыкоў гэта—скаціна. Яна дае і страву,—малако, мяса, авечы сыр, яна дае і жыльлё—скуры і лямец на кібітку, сукно—на адзеньне. А калі трэба што-небудзь купіць, дык прадаюць прадукты жывёлагадоўлі. Хлеба яны ня сеюць, ня маюць

і гарадоў. Калі вымяняюць сабе мукі, дык зьмешваюць яе з вадою, як у нас пойла для скаціны, і часам пякуць і коржыкі. Любяць кабылячае малако—кумыс, і вялікія ахвотнікі да гарбаты. Гарбату гатуюць у казанох, рэдка калі п'юць яе з цукрам. Бывае, што да гарбаты дадаюць сала. Не адмовяцца часам ад дохлай скаціны і мышэй.

Кібітка мае круглую форму, будуецца з жэрдак і абкладваецца лямцам. Вакон яна ня мае. Асьвятляецца яна праз дзірку наверсе, і гэтая самая дзірка служыць комінам, праз які выходзіць дым. Пасярэдзіне кібіткі раскладваецца вогнішча. Апалам служыць „кізяк", сушаны гной. Улетку вогнішчы раскладваюцца знадворку і часам будуюць асобную печку. Ніякай мэблі ў кібітцы няма. Ядуць на падлозе, сьпяць на куфрах, у якіх знаходзіцца ўсё багацьце калмыка: адзеньне, лямец, ды розныя цацкі. Пара вярблюдаў, дзесятак-другі авечак, пара кароў—складаюць усю гаспадарку калмыка-серадняка. А беднякі—„байгушы" і гэтага ня маюць. Яны працуюць у багатых „гайсангаў", у якіх ёсьць тысячы галоў скаціны. Цікава адзначыць, што царская ўлада брала падатак ня з колькасьці скаціны, а з кожнай кібіткі (сям'і) па 6 раз у год.

Зразумела, пры Савецкай уладзе, калі калмыкі самі ў сябе гаспадараць, парадкі пашлі зусім іншыя, але шмат чаго яшчэ засталося ад ранейшага.

Бедна жывуць калмыкі. Кожны год знаходзяцца пад пагрозай голаду. Ці засуха, ці пошасьць на скаціну, ці галалёд зімою, калі жывёлы ня могуць дастаць з пад яго травы,—і гінуць тысячы галоў ската, а разам з гэтым гіне ўся гаспадарка, усе сродкі існаваньня калмыка.

Вось з такім становішчам і прыходзіцца цяперака змагацца Савецкай уладзе. Дзеля гэтага, перш за ўсё, трэба прывучыць калмыкоў да аседлага спосабу жыцьця, каб яны займаліся земляробствам, каб не залежыў іх лёс ад кожнага капрызу прыроды. Дзе толькі ёсьць магчымасьць,—ці крыніца, ці студню можна выкапаць,—ствараюцца земляробскія пасёлкі. І вось мы бачым нават калмыцкі дзіцячы сад. Не лямцавая кібітка, а драўляны будынак. Не на падлозе ядуць дзеці, а за сталом на лавах. І не „дзікунамі" ўжо здаюцца калмычата, а прыгожымі дзяцьмі.

Але гэта толькі першыя крокі. Шмат яшчэ пройдзе часу, пакуль наладзіцца ў іх культурнае жыцьцё. Бо да гэтага часу нічога яшчэ ў іх ня было, ды застаецца галоўны вораг, які перашкаджае ім у гэтым—прырода. З ёю і прыходзіцца цяпер змагацца калмыцкаму народу.

Я. М.


Калмыцкі дзіцячы сад.

# НАША ГАЗЭТА

№ 1 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 1


## ТЭЛЕГРАМЫ

### Усім! Усім! Усім!

Пачынаючы з гэтага нумару „Беларускага Піонэра“, будзе друкавацца насьценная газэта нашых чытачоў

„НАША ГАЗЭТА“.

Шлеце допісы, водгукі, прапановы.

## Дарагія чытачы!

Сёньня выходзіць першы нумар „Нашай Газэты“. На гэтых двух старонках мы будзем высьвятляць нашу работу. Будзем высьвятляць нашы дадатныя бакі работы, даводзіць да ведама нашым атрадам і школам. На гэтых старонках „Нашае Газэты“ мы будзем выяўляць і нашы недахопы ў рабоце. Пішэце ў „Нашу Газэту“ пра работу вашых атрадаў, школ. Беце па ўсяму старому, дрэннаму, выяўляйце недахопы, а таксама адзначайце ўсё добрае, перадавайце добрыя прыклады вашай работы іншым атрадам. Выступайце на барацьбу за палепшаньне работы вашых атрадаў і школ!




Патрэбна ўсім культура,
Ды толькі—дзе-ж яна?
Мы часта чуем: „Дурань!
Лахудра ты! Шпана!“

Паслухаць толькі гэта—
Аж коле у баку!
Таварышы! Шмат дрэні
У нас на языку.

Гэй, хлопцы-піонэры,
Каб нам культурна жыць—
Рашучыя мы меры
Павінны ўсе ужыць.

Пакончыць з гэтым трэба—
Даволі ўжо чакаць.
Скарэй вазьмемся дружна
За чыстку языка.

## Аб нас ня думаюць.

*Пры заводзе „Варшавянка“ (Менск) ёсьць атрад.*

*Далі нам пакой, але гэта не пакой, а адно гора: бяз вакон, маленькі. Цёмна—як у склепе. Сродкі нашы складаюцца толькі з 2 руб. на месяц. Гульняў у нас ніякіх няма, бібліотэкі няма.*

*Чаму гэта наш фабком так адносіцца да работы піонэрскага атраду?*

**Піонэр.**

*Мы просім піонэраў пісаць нам у рэдакцыю аб тым, як адносяцца да вашых атрадаў дарослыя. Пішэце, як вы завявалі аўтарытэт сваёй работай сярод рабочых свайго прадпрыемства, сярод сялян сваёй вёскі.*

## Зямлёй карыстаецца настаўнік.

Пры нашай школе ёсьць кавалак зямлі, якую ўрабляе настаўнік.

Лепш было-б, каб настаўнік разам з вучнямі ўрабляў гэту зямлю: Тады вучні маглі-б шмат чаму навучыцца, напр., як трэба садзіць агародніну, даглядаць яе...

Але гэтага ў нас няма.

**Дзяткор.**

(В. Ірвяніца Аршанскай акругі).

## *Добра зрабілі*

**У нашай Чаціцкай 4-хгадовай школе 40 вучняў.**

**На сходзе вучняў мы паставілі пытаньне аб падпісцы на 2-гі заём індустрыялізацыі. Злажыліся хто колькі можа і сабралі 10 рублёў.**

**Кастрыца.**

(Бабруйшчына, Чырвона-Слабодзкі раён, В. Танежычы).

## Гурток курцоў.

**У нашай школе організаваўся гурток курцоў: Картанеўскі, Бранавіцкі, Валадковіч, Берасьневіч і Валадковіч І.**

**Заўсёды, калі толькі пачнецца перапынак, хлопцы бягуць за школу і там кураць.**

**Колькі разоў настаўнік рабіў ім заўвагі, але ўсё такі яны кураць.**

**Кастрыца.**

## Экскурсія ў саўгас.

*Наш атрад наладзіў некалькі выхадаў у вёску. Напрыклад, мы хадзілі ў саўгас Арловічы.*

*Там пацікавіліся ракой Дняпро, аглядзелі маемасьць саўгасу. Больш усяго цікавіліся трактарам, які да гэтай экскурсіі быў зусім невядомы нам. Нам паведамілі, што за 8-гадзінны рабочы дзень ім можна ўзараць 10 дзесяцін зямлі. Мы былі зьдзіўлены, але гэта праўда. Мы ўпэўніліся, што толькі машыны нясуць вялікую палёгку ў рабоце па сельскай гаспадарцы.*

(М. Ляды).

**Піонэр.**

## Для аднаго многа, а для другога-ніяк.

*У нас у школе вельмі дрэнна разьмяркоўваюцца абавязкі паміж піонэрамі. На больш актыўных гэтулькі наваляць работы, што яму прыходзіцца толькі бегаць з аднаго паседжаньня на другое.*

*Ад такога разьмеркаваньня работ многія піонэры зусім ня хочуць працаваць, бо ім няма часу нават падрыхтаваць урокі.*

(Азярычы, Мазырскай акругі).

**М. Матлюк.**

## Пашыраем часопісь.

*Я паставіў перад сабою задачу: — „Кожны павінен чытаць часопісь „Беларускі Піонэр“.*

*У выніку я сабраў 7 падпішчыкаў на кастрычнік месяц. Але я добра ведаю, што гэта вельмі мала; я спадзяюся, што надалей зьбярэцца больш падпішчыкаў.*

*Таварышы дзяткоры, давайце ўсе дружна пашыраць сваю часопісь!*

**Файтлін Файва.**

(Ляды, Аршаншчына).

## Так і засталося.

Вясною для нашай Ляднянскай організацыі быў адпушчан для апрацоўкі кавалак зямлі. Спачатку піонэры зямлю апрацавалі і пасеялі карэньплоды розных гатункаў. А пасьля, калі зьявілася трава, агарод выпалалі. Але-ж вядома, выпалаць адзін раз мала і агарод зарос так, што страх было глядзець. Піонэры-ж пра свой агарод забыліся, і так засталося...

Вядома, ураджай быў дрэнны.

**Піонэр Камедаў.**

(Аршаншчына, Ляднянскі раён. В. Ляды).

## Янкава перамога.

Пачынаецца ў школе пераменка:—ходзяць вучні і пальцы жуюць. Есьці хочацца, а есьці няма чаго. З дому толькі кавалак хлеба дадуць. Вось і еш! А купіць ня ўсякі вучань можа.

Так вось, значыцца, ходзяць нашы вучні і пальцы свае жуюць.

А ёсьць у нашай школе піонэрчык адзін, завуць яго Янка. Ходзіць ён і вачыма так і шнарыць па бакох, выгляд у яго таемны, як быццам у якога змоўніка.

Хадзіў, хадзіў і ўсё прыглядваўся. Быццам нейкія весткі зьбіраў.

Але вось адзін раз склікаў ён усіх піонэраў у адзін куток і пачаў мітынгаваць. Вучні ўраз зьбегліся. Старшыню насьпех выбралі.

Узабраўся гэта Янка на сьпіну аднаму здаравеннаму хлапцу, ды як загаворыць:

— Таварышы! — крычыць ён. — Досыць намучыліся мы пры буржуазным ладзе. Скінем ланцугі: цяпер наша ўлада—рабочая. Але што мы бачым, таварышы!— У нашага вучня жывот пусты і ў жываце бурчыць.

Чаму гэта бурчыць? А таму, што няма гарачага сьнеданьня, а яно па правілу павінны быць пры школе.

Браткі! Які вархал падняўся пасьля гэтых слоў. Неорганізаваны элемэнт пачаў да скандалу падбухторваць, мармытаць і іншае такое. Але Янка ўраз усіх да парадку заклікаў:

— Што за несур'ёзныя,—кажа—адносіны, таварышы!—Сорам,—кажа, на адзінаццатым годзе рэвалюцыі, ды яшчэ дарослыя... Сорамна...

— Сьцішала.

І ў цішыні гэтай пачуўся тонкі голас.

— Выбраць упаўнаважаных па пытаньню аб сьнеданьні.

А другі крычыць:

— Янку выбраць.

Назвалі яшчэ двух піонэраў.

І ўсе аднагалосна пастанавілі: Зацьвердзіць.

Паглядзеў гэта Янка на ўсіх, ды кажа:

— Ня я буду, калі ў нас ня будзе сьнеданьня!

Прашло так дзянькоў пяць. Кожны дзень ходзіць Янка з іншымі дэлегатамі і перамовы з адміністрацыяй вядзе.

Выходзяць яны адтуль зусім моўчкі і ні на каго не глядзяць. Як і што нічога не разумееш.

Ну, думаюць вучні, капут! Ня будзе гарачага сьнеданьня.

Толькі на шосты, здаецца, дзень зноў зьбегліся вучні. Узабраўся Янка на нечую сьпіну і давай:

— Рабочая кляса пад кіраўніцтвам піонэраў заўсёды заваюе свае правы. Вы чуеце, што за гэтай сьцяной шкварацца для вас катлеты і робяцца вінігрэты. Падмацуйце свае сілы для новай барацьбы. Грызеце катлеты і іншае маладымі зубамі. Ура!

Вось з таго часу і ёсьць у нашай школе гарачае сьнеданьне.

**Піонэр з гэтай школы.**

# Замежныя піонэры аб сваёй працы.

... „Я член Саюзу Юных Спартакаўцаў і мне хочацца напісаць вам аб нашай рабоце і жыцьці“—піша піонэр Дрэздэну (Нямеччына) аднаму з нашых піонэрскіх атрадаў.

Далей піша наступнае:

„Наша група была організавана некалькі год таму назад, але летам 1927 году зусім распалася. Увосень мой бацька, пры дапамозе некалькіх старэйшых піонэраў-комсамольцаў зноў організавалі нашу групу. Цяпер саюз юных спартакаўцаў Дрэздэну налічвае 25 чал. Піонэрская організацыя нашай акругі прадавала заўсёды больш за ўсе другія групы нашай часопісі „Барабан“; кожны месяц мы прадавалі па 200—300 экзэмпляраў. Гэтай работай было занята каля 10 піонэраў. Амаль кожную нядзелю, раніцай, яны займаліся агітацыяй: яны хадзілі ад дому да дому, ад дзьвярэй да дзьвярэй і прадавалі „Барабан“. Мой бацька сказаў: „Слухайце, піонэры! нам патрэбны грошы. Партыя ня можа дапамагчы нам, таму, што ў яе самой няма грошай“. Мы хочам быць самастойнымі, значыць, нам патрэбна прадаваць „Барабан“. Мы гэта і выконваем. Нам прыходзіцца плаціць за памяшканьне, у якім мы праводзім зборы і шмат што іншае.

У нашу піонэрскую групу ўваходзяць дзьве школьныя ячэйкі (піонэр. організацыя Нямеччыны пабудавана па прынцыпу школьных ячэек), гэтыя ячэйкі працуюць яшчэ ня вельмі добра, але з цягам часу яны наладзяць працу добра.

У нас у Саксоніі забаронена ўжываньне фізычных пакараньняў у школах, але, ня гледзячы на гэта, фашыцкія настаўнікі дазваляюць сабе біць нас. Да нас, піонэраў, настаўнікі адносяцца вельмі кепска, яны не даюць нам спуску. Яны-б з прыемнасьцю нас зьнішчылі, каб маглі гэта зрабіць, але, к іх вялікаму жалю, гэтага зрабіць зусім немагчыма.

У студзені 27 году мы сьвяткавалі, заместа буржуазных коляд, дзень павароту сонца. Нашы кіраўнікі і таварышы, якія працуюць у піонэр. організацыі, сабралі колькі маглі грошай і далі кожнаму з нас па пакету, у якім ляжаў падарунак. У гэты дзень мы паставілі п‘еску, але, прызнацца, сыгралі ня вельмі добра.

У нас ёсьць насьценная газэта, якая складаецца з нашых уласных малюнкаў і артыкулаў. Так, напрыклад, у нашай газэце ёсьць такія малюнкі: як піонэр павінен сябе трымаць і як не павінен, як настаўнік б‘е вучня, як дзеці рабочых павінны ўставаць раненька і бегчы зарабляць на хлеб у той час, калі дзеці багатых сьпяць спакойна ў сваіх пасьцелях, побач зьмешчаны малюнак сям‘і беспрацоўнага, бацька ляжыць хворы, а матка дае дваім дзецям талерку супу.

Нядаўна мы організавалі піонэрскі аркестр. Ён складаецца з 6 трубачоў і 2 барабаншчыкаў. Для таго, каб выступаць, піонэрам прыдзецца яшчэ многа



*Японская дзяўчынка у нацыянальным гарнітуры.*

рэпэтыравацца; імі кіруе і дапамагае таварыш з аркестру „Чырвоных франтавікоў“.

Паважаныя піонэры Савецкага Саюзу, пішэце, як вы жывеце!

Піонэр **Гэльмут Вэрнэр.**

Вось гэты кароценькі ліст паказвае, як працуюць піонэры Дрэздэну.

**Цяпер дамо слова піонэрам Кенігсбэргу** (таксама Нямеччына). Яны пішуць:

„Нямецкія піонэры вельмі рады атрымліваць лісты ад іх братоў, якія жывуць у вольнай краіне.

Вы ня можаце сабе ўявіць, як хлусяць капіталістыя пра вашу краіну. Піонэры, комсамольцы, комуністыя ня вераць усёй гэтай хлусьні, але ёсьць яшчэ, на вялікі жаль, шмат неорганізаваных рабочых, якія вераць. Больш усяго хлусяць соцыял-дэмократы. Так, адна соцыял-дэмократычная газэта пісала аб тым, што у Савецкай Расіі штодзенна ўмірае ў турмах да 15 чалавек, якіх у карыдорах зьядаюць каты (!). Падобную хлусьню вы часта можаце сустрэць у буржуазным друку. Але праўда аб СССР усё больш і больш пашыраецца сярод рабочых. Наша з вамі перапіска павінна таксама дапамагчы гэтаму.

Цяпер адказваем на вашы запытаньні. У Нямеччыне школьнікам дазваляецца організоўвацца, але ў некаторых правінцыях, як, напрыклад, у Бавары і Вюртэнбэрзе забаронен Саюз Юных Спартакаўцаў,—так называецца Нямецкая піонэрская організацыя. Наша Ўсходня-Пруская піонэрская організацыя працуе не падпольна. Мы організоўваем сходы, дэмонстрацыі. Нам забараняюць весьці прапаганду ў школах, за гэта нас вельмі строга караюць, так што нашы школьныя піонэрскія ячэйкі ня могуць весьці работы адкрыта. Настаўнікі, а большая частка настаўнікаў у нас фашыстыя, прасьледуюць піонэраў за іх пераконаньні і нават б‘юць.

Вы пытаеце, ці могуць пролетарскія дзеці атрымліваць вышэйшую асьвету. У нас для таго, каб атрымаць вышэйшую асьвету, патрэбна мець вельмі многа грошай і таму вышэйшая асьвета амаль не даступна для дзяцей рабочых. Толькі ў вельмі рэдкіх выпадках на грамадзкія сродкі можна паслаць дзіця рабочага ў сярэднюю ці вышэйшую школу.

Шлем вам прывітаньне, паважаныя таварышы. Памятайце, што нам заўсёды прыемна атрымліваць ад вас лісты.

**Група Сюс. Кэнігсбэрг.**“

Вось што пішуць піонэры Нямеччыны.

**Цяпер паслухаем піонэраў Аўстрыі.** Яны пішуць:

**„Паважаныя таварышы!**

З вялікай радасьцю мы атрымалі і прачыталі ваш ліст. Мы праводзім сваю работу поўлегальна. Але аб гэтым вы ведаеце, бо ўва ўсіх капіталістычных краінах прасьледуюць пролетарскія дзіцячыя організацыі.

Цяпер мы раскажам вам аб нашай організацыі. У кожным раёне гораду ёсьць піонэрская група. Наша група складаецца з 13 чал. У кожнай групе ёсьць актыў з 7—8 піонэраў: сакратар групы, агітпроп, школьны організатар, кантралёр, скарбнік, дзелавод, упаўнаважаны па распаўсюджваньню друку.

Работа, якую нам трэба правесьці ў бліжэйшы час—гэта зрабіць з сваіх груп школьныя ячэйкі. Пакуль што ў нас ёсьць дзьве школьныя ячэйкі пад назваю: „Савецкая Зорка“ і „Серп і Молат“. Кіруюць гэтымі школьнымі ячэйкамі па тры піонэры. Сваю работу школьныя ячэйкі праводзяць, галоўным чынам, у школе. Цяпер наша група праводзіць кампанію пад лёзунгамі: „Прэч з школы фізычныя пакараньні“, „Прэч настаўнікаў ворагаў рабочае клясы“, „Прэч адметкі“. Для таго, каб пашырыць нашы патрабаваньні сярод масы пролетарскіх дзяцей, мы распаўсюджваем нашы лістоўкі і газэтку „Юны таварыш“.

Акрамя таго, кожная група і школьная ячэйка наладжваюць сходы. У мясцовых груп ёсьць насьценныя газэты і плякаты. У насьценных газэтах пішацца пра ўсе нашы патрабаваньні. Мы прымаем удзел ва ўсіх сходах і заклікаем на іх новых сяброў у нашу організацыю. Цяпер нам вельмі цяжка працаваць, таму, што няма сталага памяшканьня. Нас увесь час выганяюць з памяшканьняў, у якіх мы зьбіраемся.

**Група Чырвоных Юных Піонэраў № 13. г. Вена.**“

# Аб усім патроху.



У некаторых народаў Азіі ёсьць такі дзікі рэлігійны звычай: калі хлопцу спаўняецца пэўны лік гадоў, яго „пераводзяць у „дарослыя“, для гэтага на яго адзяецца спэцыяльны касьцюм, які вы бачыце на малюнку.

### Беларусь 20 тысяч год назад.

У канцы мінулага лета ў Чачэрскім раёне, Гомельскай акругі, каля вёскі Вердыш, у час раскопкі кургана былі знойдзены сьляды паселішча першабытнага чалавека.

Весткі дасьледваньня сьведчаць, што чалавек пасяліўся тут 18—20 тысяч год назад. Гэта якраз у тыя часы, калі суцэльны вадзяны пласт пачаў таяць і скарачацца.

Тут-жа знойдзены косьці няменш 16 мамантаў, косьці дзікіх коняй, бізонаў і ваўкоў, мяса якіх было ядой першабытнага чалавека.

Знойдзены пасудзіны, зробленыя з мамантавага клыка. У гэтыя пасудзіны першабытны чалавек наліваў фарбы, разбаўленыя ў вадзе (часткі фарбы засталіся і да цяперашняга часу) і маляваў розных жывёлаў на касьцях маманта.

Малюнкі выконваліся добра. І да цяперашняга часу адбіткі захаваліся ў яснасьці. Можна пазнаць, якую жывёлу хацеў паказаць „першабытны мастак“.

### Чыгунка пад зямлёю.

Нядаўна ў Альпах (эўропэйскія горы) была праведзена падземная электрычная чыгунка.

Даўжыня гэтай чыгункі дасягае 9,3 кілёмэтры.

### Аэроплян выратоўвае караблі.

Выратоўчая станцыя ў Глюсьцары (Злучаныя Штаты) у апошні час пачала скарыстоўваць асобныя апараты, якія будуць даваць дапамогу гінучым караблём пры дапамозе аэропляна.

Гэткі аэроплян мае доўгую вяроўку і валец. Маючы такі валец з вяроўкай, аэроплян кідае вяроўку караблю. (Да вяроўкі прывязваецца гіра). Вяроўка прымацоўваецца да карабля, пасьля чаго аэроплан з вальцам, да якога прымацоўваецца вяроўка, зьвяртаецца на сушу.



## Што робіць т. Кулік у Сібірскай тайзе.

„Цуд“, аб якім тут гаворыцца, сапраўды быў нязвычайны. У адзін дзень зусім нечакана ў вёсках, якія раскінуліся ў ваколіцах гораду Керанску, што стаіць на рэчцы Лене, ад страшэннага выбуху разьбілася шкло ў вокнах хат. Гэты выбух быў чуцен на вялізарнай плошчы ў тысячы кілёмэтраў.

Калі размовы аб незразумелым выбусе пачалі заціхаць, тутэйшыя жыхары

(тунгусы) прынесьлі весткі аб тым, што далёка ў тайзе, у раёне Ракічамбры, на вялізарнай плошчы ў 700 кв. кілм. у час выбуху быў паломан і спален стары лес.

Перапалоханыя тунгусы казалі, што гэта „сьвяты камень“ скінуўся з „неба“, і ні за якія грошы не хацелі паказваць таго месца, дзе знаходзіўся камень.

Але ўсё-ж у 1924 годзе савецкаму вучонаму С. В. Абручову ўдалося знайсьці месца, дзе кінуўся камень. А ўлетку гэтага году навуковая экспэдыцыя, пад кіраўніцтвам тав. *Куліка*, накіравалася да месца гэтага „цуду“. Знайшоўшы гэта месца, удзельнікі пайшлі з тайгі, а тав. Кулік, па ўласнаму жаданьню, адзін застаўся ў лесе, каб як належыць разабрацца ў цудзе гэтага каменю.

І што-ж? Тунгусы былі правы: вінавайцай гэтага „цуду“ быў камень, які скінуўся з „неба“, і які вучоныя назвалі мэтэорам.

Да гэтага часу гэты камень быў часткаю нябеснага цела комэты. Напэўна, тысячы год назад гэта комэта раскалолася на дзьве часткі. Асколкі яе доўгі час блыталіся ў бязьмежным прасторы і, нарэшце, улетку гэтага году апынуліся так блізка ад зямлі, што апошняя прыцягнула іх да сябе, і яны з страшэннай хуткасьцю пачалі кідацца на яе. Лятучы з хуткасьцю некалькіх дзесяткаў кілёмэтраў у сэкунду, гэты асколак комэты прабіваў сабе шлях праз атмосфэру і хутка награваўся, бо ён цёрся аб паветра.


Тав. Кулік.

Ад страшэннай сілы гэты камень узарваўся і яго асколкі палілі, што траплялася на іх шляху, і са страшэннай сілай урэзаліся ў тайгу.

Ня дзіва, што мэтэор выклікаў да сябе цікавасьць з боку вучоных. Падрабязна разгледзеўшы склад гэтага мэтэору, можна беспамылкова адзначыць, з чаго складалася комэта, у складзе якой быў мэтэор.

Апрача гэтага, вынаходка мэтэору дае і гаспадарчыя выгады нашаму Саюзу. Цэлы шэраг мэтэораў, знойдзеных на зямлі, складаюцца з асабліва каштоўных мэталяў—нікель, медзь, плятына і інш. А вага кожнага мэтэору дасягае да 75 тысяч кілёграмаў.

Усё гэта і прымусіла тав. Куліка як можна глыбей дасьледваць тое месца, дзе ўпаў „нябесны камень“.

Цяпер савецкі вучоны адзін у тайзе, сотні кілёмэтраў падзяляюць яго ад якоганебудзь паселішча. Яму патрэбна хуткая дапамога: трэба выратаваць яго жыцьцё, яго інструманты, вынікі яго працы. Вось з гэтай мэтай і накіраваліся экспэдыцыі шукаць тав. Куліка. Хуткасьць організацыі гэтых экспэдыцый, і той удзел, які прынялі ў гэтых турботах аб вучоным і Савецкі ўрад, і Асовіахім і Добралёт, і сібірскія грамадзкія організацыі паказваюць лішні раз на тое, што стала вядомым усяму сьвету пасьля працы „Красіна“ і „Малыгіна“: Савецкі Саюз значна бліжэй за ўсялякую буржуазную дзяржаву прымае да сэрца лёс вучоных, якія працуюць над разьвязкаю таемнасьці прыроды.

Бо мы ведаем: чым болей таямніц будзе раскрыта, чым менш невядомага і цёмнага застанецца ў прыродзе, тым бліжэй будзе чалавек да сьветлай эпохі соцыялізму.

П. Л-н.






*Верш* **К. Шавеля.**

I

Неяк раптам холадам падзьмула,
Стаў лістамі плакаць жоўты клён.
Агароды поўніліся гулам,
Церлі бабы ў сушнях сівы лён.

І цапы заляскалі па гумнах,
А у полі шапацела рунь.
Па абшарах восень з песьняй шумнай
Гоніць дні юнацкія угрунь.

Школа зноў...
Бадзёры сьмех дзіцячы,
На пляцоўцы гульні—чахарда.
І хоць восень навакола плача,
Ды ня страшна гэткая беда.

Толькі вось прыглядзься да Ігната—
Ён зусім інакшы ад усіх.
Галава задумана занадта,
Хтосьці радасьць хлопцаву скасіў.

На сяброў зайздросна пазірае,
Сваім поглядам часамі ён скупым,
Бо у думках кружацца бяз краю—
Малацьба, прыгорклыя цапы.

II

Гэта сын ўдавы, бяднячкі Касі,
Што жыве на ўскрайку у сяле.
Хата іх даўно, даўно згніла ўся,
Ледзь стаіць амаль раскрыты хлеў.

Ўжо даўно у Касі крукам плечы,
Хоць яшчэ ўсяго пайшоў саракавы...
Бо гады жыцьцё яе калечаць,
На шляху калючай шмат травы.

Для ўсяго Ігнат адзін апора,—
Зарабляе, ходзячы ў саўгас.
І ня раз над ім вітала гора,
Дні сьлязамі паліваў ня раз.

Бацька быў калісь паўстанцам гартным,
Верна стрэльбу у руках трымаў...
Ён пакінуў, 'шчэ дзіцём Ігната—
Сам забіты, ўжо даўно няма...

Ў задуменьні часта пазірае
Сын на бацькі мілага партрэт...
З васьмі год ён гаспадаркай правіць,
Ён з васьмі вядзе жыцьцёвы рэй.

III

Неяк раптам холадам падзьмула...
Летнім жарам сонца не гарыць.
І імчацца з разьвітальным гулам
Чорным кантам гусі угары.

Збажыну Ігнат пазвозіў з поля,
Павазіў і бульбу у скляпы.
Шэрым днём Ігнат бывае ў школе,
Прыйдзе з школы—ляскаюць цапы.

А таксама рана, да заняткаў,
Ён малоціць з маткаю ячмень.
А у школе вучань добры надта,
Хоць вучыцца часу мала меў.

З горам шмат прыходзілася знацца,
Ледзь разьвіў жыцьцёвы свой клубок...
Хоць цяпер Ігнату і шаснаццаць,
А ўяўляе сталага сабой.

Іншы год няхваціць нават хлеба:
Галадае ўся тады сям'я.
І ў саўхоз ісьці Ігнату трэба,
Каб бяду вось гэтую суняць.

IV

На сялянскіх сходах ён бывае—
Там душа грамадзкасьцю жыве.
Вецер хаты ў цемені хавае,
А ў чытальні сьлепіць вочы свет.

І Ігнат прамову часта скажа
Пра заём,
дзіравыя масты.
А дзядзькі сядзяць тады,
І ўважна
Прыслухоўваюцца к словам тым.

Нейк было:
У верасьнёвы вечар
Прадстаўнік з раёну гаварыў:—
Каб на тую весну—
(На‘т канечне)—
Збудавала вёска колектыў.

На‘т зямлёю лепшаю надзеляць,
І ільготаў розных будзе шмат...
У Ігната шчокі загарэлісь,—
Як ружова-сьветлы мак.

Дома Ігнат матульку раскатурхаў—
„Дарагая мамачка мая!
Ты мяне ўважліва паслухай,
Што на сходцы чуў сягоньня я:
Мы вясной пакінем гаспадарку,—
Запісаўся сёньня я ў арцель.

Луг касіць мы будзем там касаркай,
Больш ня будзем задарма пацець.
Завядзем мы тамака шматпольле,
Будуць дні пановаму каціць.



Не па шнуры—
А па шырокім полі
Заліхвацка трактар паляціць".

Усьміхнулісь матчыны павекі—
Мары шчасьця сэрца спавілі...
Зашумеў так ветла ў полі вецер,
Як ня мог шумець калісь.

— Ну, дык—згодна:
Будзем комунары!
І Ігната моцна абняла.
Праз вакно ўсьміхаўся месяц хмарам,
І разьліў сьвятло ўздоўж сяла.

V

Дні зімы раптоўна прамінулі...
І канец вучобы ўжо прышоў.
У арцелі поле засявалі—
Вышыў трактар сьвежую ральлю.

Прывітальна жаўрыкі сьпявалі,
Пасылалі песьні на зямлю.

Не заўецца больш у думках шэрань
Аб‘вясьцілі людзі суму бой...
За адным сталом была вячэра,
Па вячэры ў клюб пайшлі гурбой.

* * *

Край мой, край!
Да лепшага ты крочыш!
Весялюся я з табой таму,
Што шляхі становяцца карочай,

З нашых дзён зьлятае муць.
Узрастаюць юныя комуны,
Пазасохла скудная трава.
І імчацца страшныя буруны
Дні жыцьця адцьвіўшага зрываць.

# „Кветкі“ патрабуюць увагі

**(„Маленькія і вялікія“**—кіно-фільм для дзяцей).

Вялікі брудны дом... На двары гуляюць і забаўляюцца дзеці. Самы старэйшы піонэр, астатнія ўзросту акцябрат. Іх усяго 5 чал.

І ўсё-ж такі нават пецярым дзецям у такім вялікім доме не хапае месца. На двары, гуляючы, яны налятаюць на кіраўніка справамі дамкому, раскідаюць яго паперы, гэтым выклікаючы вялікае абурэньне разздаванага дзелавода з дамкому. Іх жывёлы (пацук, чарапаха) таксама бяз месца.

— Няма жыцьця... Матка чарапаху выкінула...

Так аб гэтым кажа адзін з пяцёркі.

Усюды ганяюць. Куды-б не пайшлі, абавязкова трэба ісьці ціха, нават так, каб дарослыя зусім не заўважалі цябе. Гэта і на кухні, і ў кватэрах кожнага.

Адзін хлопец—аматар галубоў, добра праводзіць час з сваімі птушкамі на страсе. Гэты выпадак наводзіць дзяцей на думку праводзіць час так, каб дарослым не перашкаджáць і каб дарослыя ім не перашкаджалі: лезьці ўсім з сваімі жывёламі і цацкамі на страху. Раптам з двара заўважылі, што па страсе бегаюць дзеці... Некалькі хвілін—і дзеці падпалі пад хатні арышт. Кожны сядзіць ля ваконца, з сумам паглядае на двор...

Раптам у самага старэйшага з дзяцей зьяўляецца „ідэя“: завязаць сувязь праз форткі. Ён перакідвае праз фортку вяроўку ў фортку другога таварыша і праз некалькі хвілін пацук, завязаны ў хустачку, ужо плыве па вяроўцы з адной форткі ў другую. А яшчэ праз некаторы час, па вясёламу прыкладу „вынаходцы“, ужо з усіх фортак едуць цацкі—мядзьведзі, сланы, сабакі...

Аднак уся гэта забаўная гісторыя канчаецца тым, што сам „вынаходца“ зрываецца з акна і апынаецца ў другім пакоі ледзь жывым, зьбегліся людзі, у тым ліку і старшыня жыльлёвага таварыства.

— Чаму гэта ты лётнікам стаў? —пытаецца жартоўна старшыня.

І ў адказ сур'ёзнае:

— Ад добрага жыцьця не паляціш!..

І гэткую жальбу дзяцей на сваё жыцьцё пачуў старшыня жылтаварыства.

Вызваліцца пакой, дадзім вам яго пад клюб... зрываецца з вуснаў старшыні пасьля такой гісторыі.

Чакаюць дзеці. А чакаць прышлося ня доўга, хутка вызваліўся ў аднэй кватэры вялікі пакой. Дзеці загадзя ўжо мараць аб сваім клюбе.

Кожны свой будучы клюб уяўляе пасвойму. Адзін як лябараторыю для вынаходзтваў, другі як бібліотэку і чытальню, трэці як зоолёгічны пакой і іншае.

Зьявіўся вораг. Прыватны гандляр хоча заняць пакой і бюрократы з жыльлёвага таварыства яму ў гэтым дапамагаюць. Старшыня-ж жыльлёвага таварыства, які абяцаў даць дзецям пакой, кудысьці паехаў.

Дзеці разумеюць, што без старшыні ім пакою не атрымаць. Праводзіцца грашовы збор сярод дзяцей двара—гэта зьбіраюцца грошы, каб пасдаць самага старэйшага на пошукі старшыні жылтаварыства.

Сёньня сход сяброў жылтаварыства. На гэтым сходзе будзе вырашана пытаньне, каму аддадуць пакой. А „вораг“ ня сьпіць, ён ужо ўмовіўся з багатымі жыльцамі, а бяднейшых ён спакушае нейкімі падарункамі. Дзеці таксама ня сьпяць? У іх таксама ёсьць вельмі многа ініцыятывы—яны ўжываюць усе захады для таго, каб адцягнуць сход, для таго, каб на сход пасьпеў старшыня жылтаварыства.



Што нам рабіць?

Так і здараецца. Калі пытаньне ўжо ставіцца на галасаваньне, раптам зьяўляюцца на мотоцыкле старшыня жылтаварыства і „атаман“—піонэр. Пакой выйгралі дзеці.

* * *

Такі зьмест кіно-фільму, які ідзе першым у рэпэртуары дзіцячага кіно-тэатру ў Менску. Гэтую вясёлую камэдыю, зразумела, з цікавасьцю праглядзяць кожны школьнік, кожны піонэр. Фільм „Маленькія і вялікія“ праводзіць добрую агітацыю за тое, што трэба ня толькі гаварыць: „Дзеці—кветкі жыцьця“, трэба ім і дапамагаць, сачыць за іх выхаваньнем.

**Нінель Акцябрскі.**



# ШТО ЧЫТАЦЬ да 11-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі.

1. **„10-ая годовщина Октября и пионеры"**— матар'ялы ЦБ ЮП пры ЦК УсеЛКСМ.

Зьмест. Парады павадыру, як organізаваць сьвята 10-ай гадавіны Кастрычніка ў атрадзе і па-за атрадам. Як організаваць выстаўку, конкурс і агляд работы ў атрадзе. Як упрыгожыць клюб да сьвята. Як рыхтавацца да дэманстрацыі, карнавалу і як прыняць у іх удзел. Як правесьці 10 гадавіну з акцябратамі. Мэты і задачы насьцен. газэты ў Кастрычніку. Кароткі агляд літаратуры аб Кастрычніку.

Вы-тва „Молодая Гвардия". Масква. Цана 20 к.

2. *Лугоўскі В.* **„Октябрьский вечер в пионерском клубе"**.

Зьмест. Матар'ялы для вечара ў гадавіну сьвяткаваньня Кастрычніка.—„О Ленине" (інсцэніроўка з дыапазытывамі). „Белые беды—Красные победы".—(Прадстаўленьне з ляляк). „В дни Октября подведем итоги" (лічбы росту піонэр-організацыі ў дыяграмах) „Полет в Китай" (інсцэніроўка-трук). „Забавное кино". Практычныя заўвагі да пастановак.

Вы-тва „Молодая Гвардия". Масква. Цана 30 к.

3. *Лугоўскі В.* „**10-летие Октября в пионерском отряде**".

Зьмест. Паказаньні як праводзіць сьвяткаваньне. Матар'ялы для гутарак, жывая газэта, раешнік, лубок, кіно-цені, пятрушка, ажыўлённая карта, жывая бібліографія, розныя інсцэніроўкі і іншае на тэмы аб Кастрычнікавай рэволюцыі, аб Леніне, аб Чырвонай арміі, аб законах піонэраў, аб дасягненьнях атраду да Кастрычніка.

Вы-тва „Молодая Гвардия". Масква. Цана 1 р. 20 кап.

## Мастацкая літаратура.

1. *Заяіцкі С. С.*—„Великий перевал". Аповесьць. Д. В. М.-Л. 1926 г. 261 стар. Цана 1 руб. („Новая детская библиотека". Старэйшы ўзрост).

Аповесьць з эпохі грамадзянскай вайны. Першая частка (хроніка) дае шмат бытавога матар'ялу (малюнкі Кастрычнікавага перавароту ў Маскве); другая мае прыгодніцкі характар.

2. **„Пионерам об Октябре"**. Зборнік пад рэдакцыяй ЦБ ЮП ЦК УсеЛКСМ.

Склаў І. Родзін. Выданьне „Молодая Гвардия" М.-Л. Цана 1 руб.

Зборнік у цэлым прызначан для павадыра, складаецца з рознастайнага матар'ялу.

Для самастойнага чытаньня дзецям ад 12 год можна выкарыстаць артыкулы Лілінай, Крупскай, Емельлянава і іншых. Акрамя таго, дзеці змогуць самастойна выкарыстаць аддзел п'ес і вершаў.

3. *Пятрова Е. Н.* **„История одной девочки"**. Аповесьць. Д. В. Ленінград. 1924 г. 163 стар. Цана 80 кап. (Кніга для моладзі).

Бацькі гэтай дзяўчынкі—рэволюцыйныя рабочыя. Маці—у высылцы, бацька—мабілізаваны на фронт; дзяўчынка застаецца адна і пасьля шмат якіх мучэньняў зноў злучаецца з бацькамі ў дні рэволюцыі.

Аповесьць складаецца з шэрагу пачуцьцёвых сцэн, якія прываблівають дзяўчатак 12—14 гадовага ўзросту. Дае некаторы матар'ял з гісторыі Кастрычнікаўскага перавароту.

*Джон Рид.* **„10 дней, которые потрясли весь мир"**. Выданьне „Рабочай газэты". Масква. 1924 год. Цана 90 кап.

„Прачытаўшы з вялікім інтарэсам і неаслабнай увагай кнігу Джон Рыда „10 дней, которые потрясли весь мир", я ад усёй душы раю гэты твор рабочым усіх краёў".

(Ленін).

Так пісаў пра гэту кнігу Ленін.

# Вожык

## ЦІКАВЫ ЛІСТ

Нядаўна ў рэдакцыю нашай часопісі прынесьлі маленькі пакецік.

А ў ім было:

„Паважаныя сябры! Ня дзівецеся, што я, Вожык, вам шлю гэты ліст. Жывучы на Беларусі, я вельмі чула адношуся да працы сярод дзетвары. А ў гэтай працы ня ўхілішся ад хібаў. І вось я, як вольная жывёліна, паставіў сваёй мэтаю: вандраваць па Беларусі і зьбіраць матар'ял аб недахопах у жыцьці і працы дзяцей. Між іншым, я чытаў у газэце (2 гады вучыўся на лікпункце) аб культурным паходзе. Не мяшала-б усадзіць свае калючкі (выбачайце, што ў гэтым ёсьць невялічкія рысы хуліганства) усім неахайнікам, курцом, карцёжнікам і нядбайнікам.

Матар'ял я буду перасылаць у вашу рэдакцыю па пошце, бо, змарыўшыся ад хады па атрадах, я не змагу сам акуратна прыносіць яго да вас".

Гэта толькі маленечкі ўрывачак з вожыкавага ліста. Дык будзьце-ж напагатове!.. У кожную хвіліну Вожык можа заглянуць у ваш атрад ці ў школу, ды так уколе, што не захочацца болей.

Ніжэй мы зьмяшчаем першыя матар'ялы нашага новага дапішчыка—вожыка.

---

## „КІРМАШ"

„У 1-ай школе Зах. чыг. ня ў вызначаны час пачынаюцца зборы. Піонэры ня цікавяцца гутаркамі, а надзвычайна чакаюць тае хвіліны, калі кончыцца збор і пачнуцца гульні. Гуляюць заўсёды ў „кірмаш". Бяруцца парамі, прыдумліваюць псэўдонімы і ідуць на „кірмаш". Хто ўгадае чый псэўдонім, то тая пара мяняецца.

**Дзяткор.**

У клюбе хлопцы і дзяўчаты
Сьпявалі, бегалі, гулі...



Быў збор назначаны а 5-ай,
А ледзь а 6-ай пачалі.
Мінуўся збор. Якое шчасьце!
Дзяўчаты й хлопцы аж гараць.
І пачынаюць Колі, Насьці,
У гульні розныя гуляць.
Ім моцна гутарка дадзела—
Нічога горш яе няма:
Сядзіш, глядзіш, бы асавелы,!
Цяпер—гульня!
Давай „кірмаш"!
І зьнікла чорная завеса,
Раздайся шырай вольны дух!
І быццам муж з сваёй нявестай,
За парай пары дружна йдуць.
Ідуць. Таргуюцца, бы ў краме.
І іншы іншай падміргне.
Фарпост стаіць, як быццам камень,
Чагосьці крывіцца ўсё нейк.
Фарпост кірмашу быў нярады,
Таму і быў спавіт нудой.
— Аб гульнях новых дай параду!
А ён маўчыць, як рот з вадой.
І круцяць так свае галовы,
Пакуль гадзіньнік (злы!) бясcловы
Праб'е дванаццать на сьцяне.

# ВАНДРАВАНЬНЕ ВОЖЫКА.

Сябры! Хто з вас Вожыка ня знае? Гэта—калючая жывёліна такая. І хоць ён не асабліва рухавы, усё-ж, калі прыдзецца да справы—ён віхрам коціцца, яй-права! Калі пабяжыць, ды як паставіць калючкі, дык такія прышпіліць значкі-балючкі! Зразумела, калі ты які-небудзь благі, а ня хто другі. Гэты-ж Вожык быў нязвычайны: такі адчайны, што ня быў нават хвор схадзіць на піонэрскі збор. Браў слова ў спрэчках і, трэба сказаць,—гаварыў да рэчы. У прамове глупства не напора—усе недахопы калючкамі прапора, выцісьне ўвесь бруд адтуль і накіруе на правідловы шлях піонэрскі руль. Насіў з сабою аловак і блёк-нот. (Каб у прамове ня мець клапот).

Але гэтаю вясною, як на бяду, прапаў Вожык, як у ваду. Уцёк, ні сказаўшы ні слова.

І толькі праз тры месяцы (і зусім выпадкова) сустрэў я яго на адным мястачковым бульвары. З портфэлем у руце ён шпарыў спрытна і лоўка, за вухам з алоўкам.

— А, як жывеш? І замест адказу, з яго рук атрымаў заметак цэлы пук.

„Ага! Цікава“! Задаволен і рад. Разгарнуў у хваляваньні. Чытаю: „Маё вандраваньне“.

А далей:

*„Цяцерынскі атрад яшчэ жыве, але жыцьцю ня рад. Атрадам кіруе нова-назначаны павадыр—хлопец нявартыя нікуды. Не глядзіць свае справы ані-крышку і чагось рызыкуе (вось яловая шышка!).*

*І адпачывае на лаўрах „Атраднае дзела“. Бывае, збор атраду назначаецца на панядзелак. Але зьбег кудысь павадыр і, як на гора, збор адкладваецца на аўторак. Піонэры-ж ня сьпяць і праз хвілінкаў пяць, як я вам гавару—шусь! к пам. павадыру. А там быў паганы сабака—не аднаму ён даўся ўзнакі! І ледзь перамогшы страх—піонэры ў хаце, і—„трах“!—адбаярваецца пам-павадырова маці: Учора позна гуляла, па гэтай прычыне не даспала і павадыр праўдзе збор!—адказала. Паглядзелі піонэры на „сьпяшчую царэўну“ скоса і пашлі „з носам“.*

*Так і адкладваюць: ад панядзелка да аўторка, ад аўторка, да чацьвярга, а ком. ячэйка на гэта ні-гу-ні-га! Сьпіць усё і ўсе сьпяць, а піонэраў з 70 асталася 35.*

Чытаю далей, а тамака ня лепш:

„Настаўнік у Стара-Дароскім раёне, Цярэшка, думаў, што піонэры—гэта сьмешкі. На чырвоныя гальштукі скоса паглядае,—злоснымі, вачмі, глядзі,—прапора, у школе не дазваляе праводзіць атраднага збору. Нават выкінуў з школы павадыра: „Вы, мол, детвора!“ Пра Цярэшкіну справу напісалі ў культаддзел пякучую заяву, але і там не зьвяртаюць увагі—мусіць, баяцца настаўніцкае павагі“.

„У мястэчку Зэмбін, Барысаўскага раёну, піонэр-атрад пры с.-г. яч. на парозе скону. Павадыр, як на гора! Ужо паўгода, як ня было атраднага збору. І жывуць так: піонэры ганяюць сабак, гуляюць у карты, а калі гуртом зьбяруцца, дык не на жарты паб'юцца. А комсамольская ячэйка на гэту справу пазірае, бы сухотнік нейкі. (Ці не паклікаць хоць вэтэрынара, каб даў парадаў пару).

Гэта толькі тры выпадкі пра нашыя непарадкі. І хваробу гэтую вылячыць паможа хіба наш паважаны доктар Вожык.

Ну, а покі бывайце здаровы. У далейшым шмат яшчэ заметак прышлю: А пакуль усім—піонэрскі, гарачы салют!“

**Вожык.**





# ПАЛЯВАНЬНЕ ЗА МЫШАМІ.

Раз паўднёваю парою
Да засьценкаў шэрых
Беглі весела гурбою
Полем піонэры.
Борзда ўсіх мільгаюць ногі,
Ажно пыл курыцца.
Раптам мышка па дарозе
Кумілём імчыцца.
Загарэліся ўсе гневам,—
Янкі, Манькі, Грышкі—
Па зялёнаму засеву
Гоняцца за мышкай.
— Бі! Даві! Душы, няйначай!
— Хлеб псуе сялянам!
Гэтак Янка наш з гарачкі
Пеніўся, бuяніў.
Доўга бегалі, кружылі
Па палёх, як галкі.



Потым мышку ўсё-ж забілі
Сукаватай палкай.
Але тут-жа зразумелі,
Чаго й не чакалі:
„Мышка гэтулькі-б ня зьела,
Колькі мы стапталі“.
Круціць Янка галавою,



Каецца за ўчынак,
Навярцеў на палец свой
Доўгі хвост мышыны.

ВАДЗІМ ГОСЬЦЕЎ.

---

„Вожык“ шчыра просіць усіх дзяткораў дапамагаць яму ў працы—прысылаць матар'ял. Пішэце як хто ўмее—„Вожык“ сам паправіць.

# ШКОДНІКІ КАПУСТЫ.

(*К а н е ц*).

нага боку крыльляў. Апрача таго, самка крыху буйней за самца і мае таўсьцейшае брушка.

Вось якія характэрныя асаблівасьці надворнай будовы капусьніцы.

Харчуецца капусьніца сокам розных кветак. Бялянка вельмі любіць сонца і ў пахмурныя дні яе рэдка спаткаеш. Калі матыль сядзіць і складвае крыльлі, ён робіцца зусім няпрыкметным, бо колер з надворнага боку крыла брудна-жоўты.

Вясной і пад восень на ніжняй частцы ліста капусты можна знайсьці жоўтыя яечкі, колькасьцю

### Рэпніца.



а—самец, b—самка, с—вусень, d—яйцо, m—кукалка.

ад 50 да 200 штук: Гэта яечкі бялянкі. Цераз 5-6 дзён выходзяць вусені. Цікава зазначыць, што за паўсутак да выхаду вусеняў яечкі прымаюць зямліста-шэры колер. Маладзенькія вусені сьветлыя, з чорнымі галовамі, а потым робяцца маленькія з жоўтымі палоскамі па бакох. Галава вусеня мае пару вачэй і моцна разьвітыя сківіцы, бо вусень есьць цьвёрдыя харчы—капусту. Тулава складаецца з 13 сэгмэнтаў. Да першых трох сэгмэнтаў прымацавана 6 штук цэпкіх ножак. Далей ідзе пропуск праз два кальцы і на астатніх сэгмэнтах ёсьць 8 пар мясістых ножак, хвост і анальная шчыліна.

За сваё жыцьцё вусень 5 разоў ліняе і акукальваецца. Акукаліваньне адбываецца так: вусень выпускае з роту і з задняга праходу клейкую вадкасьць, якая хутка застывае і ператвараецца ў павуціну, якою вусень абкручваецца. Хутка ён абрастае цьвёрдай скуркай.

Бялянка выходзіць у дзьве зьмены. Першая зьмена—гэта вясеньнія матылі, а другая—летнія. Восеньню і зімой на сьценах хлявоў і платоў можна знайсьці кукалкі бялянкі. Колер яны маюць зеленавата-жоўты з шэрым адценьнем.

Апроч бялянкі пашырана ў нас рэпніца. Рэпніца падобна да бялянкі, толькі значна драбнейшая.

Размах крыльляў 40—45 мм. Самец блізка падобен да самкі, толькі значна меншы. Яечкі рэпніцы раскіданы па адным і маюць таксама жоўта-залацістыя колер. Вусені бархатна-зялёныя з зялёнай галавой і жоўтымі кроплямі па бакох.

Кукалка шэра-зялёная. У астатнім рэпніца падобна да бялянкі.

Акрамя рэпніцы ёсьць яшчэ шкоднік капусты—бруквеніца. Яна вялічынёй з рэпніцу, толькі жоўтага колеру.

Акрамя гэтых шкоднікаў, ёсьць яшчэ адзін вялікі шкоднік капусты—гэта начная соўка. Розьніца паміж самцом і самкай зусім малая. У самкі толькі таўсьцейшае брушка і больш загостранае к нізу. Начная соўка жыве і лётае ноччу, а ўдзень сьпіць. Колер яе цёмна-буры. У вусеня ня 8 пар мясістых ножак, а 7 пар. Колер яе бывае сьветла-карычневы і цёмна-карычневы. Яечкі кучкаю адкладвае соўка; колер іх шэры.

Змагацца з гэтымі шкоднікамі можна дваякім чынам: першы спосаб—абламваць лісты з яечкамі гэтых шкоднікаў і паліць іх, і, нават, калі можна зьнішчаць вусеняў і кукалак, а другі—гэта апрыскаваць капусту рознымі атрутнымі рэчамі. Прываблівать птушак амаль што бескарысна, бо яны не ядуць іх, з тае прычыны, што яны выпускаюць вадкасьць, якая дае вельмі няпрыемны пах.

Ёсьць яшчэ ў агародзе шкоднік: капусная моль, але я яе не дасьледваў, дык і ня ведаю пра яе жыцьцё.

### Начная соўка.



а—соўка, b—вусень, d—яечкі, m—кукалка, с—соўка, n—галава матыля.

Вусені таксама хварэюць ад плесені і ад наезьніка. Наезьнік—гэта мошка, якая праколвае ў сьпіне вусеня дзірку і адкладае туды свае яечкі. З іх выходзяць у сярэдзіне вусеня лічынкі і кормяцца за кошт яе. Выходзяць з вусеня яны ўжо кукалкамі, а вусень здыхае. Вось якія галоўныя шкоднікі капусты. Усё гэта, хто цікавіцца, хай праверыць на практыцы.

**Гайко.**

(Вучань 6-ай клясы).



ЦАНА 12 кап.

# ПАДУМАЙ.

## ЗАДАЧЫ.

### Кругом сто.

У белых кружочках разьмясьціць лікі ад аднаго да 26 уключна так, каб разьмешчаныя ў кожным крузе з некалькіх кружкоў і па кожнай простай лініі лікі пры складаньні далі 100.



### Хто зробіць?

Палажы на адну запалку 15 запалак і паднімі на гэтай запалцы ўсё ўгару так, каб запалкі не рассыпаліся.

### Што даражэй?

У Кітаі зараз адбываецца вайна. Войскі Ангельшчыны, Японіі і іншых дзяржаў займаюць лепшыя мясцовасьці і гаспадараць, як у сваёй хаце. Утрыманьне замежных войск у Кітаі каштуе вельмі дорага, і золата туды адпраўляецца вагонамі.

Пры чарговай адпраўцы золата з Японіі чыноўнік, які вартаваў золата, спытаў другога:

— А што даражэй—вагон залатых пяцёрак, ці поўвагона залатых дзесятак?

Як па-твойму: Што даражэй?

## ХАТНІЯ ГУЛЬНІ.

### Хто першы?

Усім гуляючым трэба мець кавалак перы і аловак. Бярэцца якая-небудзь тара альфабэту, напр. „К". Трэба, гуляючыя напісалі ўсе вядомыя ім н вы: расьлін, жывёлін і рознастайных падарчых прылад, якія пачынаюцца тай літарай „К". Напр.: клён, кар каза, конь, каса, кайстра, кола і Той, хто на працягу 10-ці хвілін нап больш—выйграе.

### Колькі выйшла?

Бярэцца якое-небудзь слова, на „Трактар". З літар, складаючых г слова, трэба скласьці новыя словь слове „Трактар" у нас ёсьць „Р" разы, „А" два разы, „К" і „Т"; якія вы можна скласьці з гэтых літар? Атр ліваецца, напр.: рак, так, тракт, тр тар, кат. Той, хто прыдумае найбо шую колькасьць злучэньняў на прац 15-ці хвілін—выйграе.

## ЖАРТЫ.

### Пагутарылі.

Два дзяды, абодва глухія, суст каюцца на вясковай вуліцы. Адзін з трымае ў руках вуду.

— Ідзеш рыбу лавіць?—крычыць п шы.

— Не!—крычыць другі.—Іду рыбу віць.

— Ага! а я думаў, што ты ідзеш ры лавіць!—крычыць першы.

### Пытаньне па сутнасьці.

Павадыр атраду, скончыўшы гутар аб шкодзе курэньня, спытаў у піонэр

— Таварышы, можа быць у каго п таньне ёсьць па сутнасьці?

Адзін з піонэраў падымаецца і каж

— Так. Я хацеў-бы ведаць, як пуск юць кольцы дыму праз нос?

1-я Друкарня БДВ. Заказ 256—1250. Галоўлітбел № 110.